# ЗА СВАБОДНАЕ ВЕРАВЫЗНАННЕ

**Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь**

**№26 красавік — чэрвень 2010**


«... абяцаем тое сабе сумесна за нас і за патомкаў нашых на векі вечныя пад абавязкам прысягі, пад вераю, гонарам і сумленнем нашым, што мы, якія з'яўляемся рознымі ў веры, мір паміж сабой захоўваць, а ў сувязі з розніцай веры і адрозненнем у цэрквах крыві не праліваць і не караць адсуджэннем маёмасці, пазбаўленнем гонару, турэмным зняволеннем і выгнаннем, і ніякаму вяршэнству, ані ўраду, да такога ўчынка ніякім чынам не дапамагаць...»

**Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588. Гл.3, арт.3.**

## Яна Міхайлава апраўдалі

***Для напісання законапраекта аб альтэрнатыўнай службе ва ўрадзе створана працоўная група на чале з міністрам працы Мар'янай Шчоткінай.***

4 мая суд Мінскага раёна апраўдаў верніка Яна Міхайлава, які, паводле папярэдняга судовага выраку, адбыў амаль 3 месяцы арышту за ўхіленне ад вайсковай службы.

21-гадовы Ян Міхайлаў па рэлігійных перакананнях адмаўляўся служыць у войску. Яго затрымалі 15 снежня 2009 года і пакаралі арыштам на 3 месяцы.

10 сакавіка Ян Міхайлаў выйшаў на волю і з таго часу знаходзіўся пад падпіскай пра нявыезд. Пасля доўгага разгляду справы суд Мінскага раёна поўнасцю апраўдаў Яна Міхайлава і вызваліў яго з-пад падпіскі аб нявыездзе.

**ВЯРХОЎНЫ СУД Рэспублікі Беларусь**
вул. Леніна, 28, 220030, г. Мінск
тэл. (017) 226-12-06, факс (017) 227-12-25
E-mail: scjustrb@pmrb.gov.by

**ВЕРХОВНЫЙ СУД Республики Беларусь**
ул. Ленина, 28, 220030, г. Минск
тел. (017) 226-12-06, факс (017) 227-12-25
E-mail: scjustrb@pmrb.gov.by

12.03.2010 г. № 01-136-м

на №________ ад ____________

Михайловой Т.Ф.
ул.Кирюникова, д.63
д.Щомыслица,
Минский район

О рассмотрении обращения

Ваше обращение, поступившее из Государственного секретариата Совета Безопасности Республики Беларусь, в Верховном Суде рассмотрено.

Установлено, что по приговору суда Минского района от 1 февраля 2010 года Ваш сын Михайлов Иван Владимирович был осужден к трем месяцам ареста за уклонение от мероприятий призыва на воинскую службу.

Данный приговор отменен определением судебной коллегии по уголовным делам Минского областного суда от 9 марта 2010 года из-за неполноты судебного следствия и дело направлено на новое судебное разбирательство. Михайлов И.В. освобожден из-под стражи.

Приложение: на 3 л. в 1 экз.

Заместитель Председателя [подпіс] В.Л.Калинкович


Фота Радыё Свабода

## Клецкая пракуратура вынесла папярэджанне выдаўцу хрысціянскай газеты «Апостальскі ветразь»

***25 чэрвеня Клецкая раённая пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне Алегу Нікуліну, выдаўцу хрысціянскай газеты «Апостальскі ветразь», якая выходзіла накладам 299 асобнікаў.***

Як паведаміў Алег Нікулін, у тэксце папярэджання ўказана, што ён парушыў арт. 1 пп. 5, 26, арт. 17, п. 1 і арт. 32 Закона аб СМІ.

Паводле Алега Нікуліна, пракурор Алег Карабкоў папярэдзіў яго, што выданнем газеты, нават маланакладнай, могуць займацца выключна юрыдычныя асобы.

Юрыст Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец патлумачыў, што, у адпаведнасці з Законам аб СМІ, дадзенае патрабаванне не распаўсюджваецца на выданні, наклад якіх не перавышае 299 асобнікаў. «Гэта вынікае з аналіза Закона, які мы правялі пасля таго, як пракуратуры ў некалькіх гарадах выносілі аналагічныя папярэджанні», — кажа юрыст.

У выданні асвятляліся выключна пытанні рэлігійнага жыцця.

**«Белорусские новости»**

## В Витебске осквернён памятник Иоанну Павлу II

***Ночью 30 июня в г. Витебск неизвестные проникли через закрытые ворота к костелу Иисуса Милосердного и нанесли повреждения скульптуре, установленной в честь Иоанна Павла II.***

Вандалами были выломаны посох и кисть руки, повреждены другие фрагменты памятника. По словам очевидцев, вандализм — дело рук двух молодых людей.

Сейчас решается вопрос о возбуждении уголовного дела по статье «Осквернение сооружений и порча имущества». Об этом Первому телеканалу рассказал ксендз Роман Мурзич, викарий прихода, на территории которого установлен памятник.

Иоанн Павел II был избран главой римо-католического костёла в 1978 году, в возрасте 58 лет, и занимал папский престол до своей кончины в 2005 году.



## Царкоўная літаратура будзе распаўсюджвацца па дазволу

***Створана Выдавецкая рада Беларускай Праваслаўнай Царквы, якая будзе праводзіць багаслоўскую і літаратуразнаўчую экспертызу царкоўнай літаратуры.***

Пра гэта паведаміў афіцыйны сайт Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Экспертыза Выдавецкай рады будзе абавязковай для ўсёй друкаванай і мультымедыйнай прадукцыі, што будзе распаўсюджвацца праз сістэму царкоўных установаў і арганізацый. Распаўсюд будзе магчымы толькі пры наяўнасці дазволу Выдавецкай рады.

Старшынём Выдавецкай рады БПЦ прызначаны епіскап Барысаўскі Веніямін, вікарый Мінскай епархіі.

# Пастар Качагур змагаецца за свае правы

***Гарадзенскі абласны суд пастанавіў адмяніцьпрысуд, вынесены наваградскім раённым судом Уладзіміру Качагуру, пастару царквы «Новае пакаленне», а справу даслаць на новы разгляд з прызначэннем іншага суддзі. Прычынай такой пастановы стала касацыйная скарга пастара.***



12 траўня адбылося першае судовае паседжанне па гэтай справе. Справу вёў суддзя Раманоўскі.

«Судзілішча (інакш я назваць гэта не магу) пачалося вельмі цікава, — распавёў Уладзімір Качагур. — 12 траўня а шостай раніцы мне прынеслі позву ў суд — і тым самым мне паведамілі, што ў гэты ж дзень суд адбудзецца. Мне не далі часу падрыхтавацца».

У выніку суд быў перанесены на 14 траўня. У гэты дзень супрацоўнікамі наваградскай міліцыі быў праведзены ператрус на кватэры пастара. Міліцыянты патлумачылі, што яны шукаюць зялёную фарбу дзеля рэчавых доказаў. Яны паведамілі Уладзіміру, што невядомыя аблілі зялёнай фарбай аўтамабіль.

Наваградскі раённы суд прызнаў Уладзіміра Качагура вінаватым у правядзенні набажэнстваў без дазволу мясцовага выканаўчага органа і прысудзіў яму штраф у памеры 20 базавых велічыняў (700 тыс. рублёў). Падставай для судовага разбіральніцтва сталі дзве скаргі на сп. Качагура, якія напісала ў міліцыю былая суседка пастара Зінаіда Шляхцюк, дырэктар мясцовага каледжа.

Цікава, што першая скарга была пададзеная ў той перыяд, калі Качагур з жонкай і двума непаўнагадовымі дзецьмі яшчэ жылі са Шляхцюк у адным доме. Другая, паводле якой і заведзена справа, — у красавіку, калі сям'я Качагура ўжо пераехала на іншае месца. Жанчына напісала, што з кватэры пастара пасля 24.00 чуваць гучную рэлігійную музыку, спевы, што па начах там нібыта праводзяцца багаслужэнні «і ў кватэру ходзяць людзі».

Аднак Гарадзенскі абласны суд, разгледзеўшы скаргу пастара Качагура, прызнаў гэты прысуд неабгрунтаваным і незаконным у сувязі з тым, што суддзя Раманоўскі не выканаў у поўнай меры патрабаванні закону пры разглядзе справы аб адміністрацыйным правапарушэнні.

Так, былі прынятыя да ўвагі толькі сведчанні з боку абвінавачання, якія «сам па сабе факт арганізацыі і правядзення багаслужэння Качагурам не пацвярджаюць».

Да таго ж, адзначаецца ў пастанове Гарадзенскага аблсуду, не было праверана сцверджанне сп. Качагура аб немагчымасці правядзення багаслужэнняў ва ўказаны ў пратаколе час у сувязі з пераездам на іншую кватэру. Не былі дапрошаны сведкі, аб выкліку якіх хадайнічаў перад судом пастар.

Пастанову Гарадзенскага абласнога суду з адменам прысуду, за подпісам суддзі Еўтуха, пастар атрымаў праз пошту. На думку У.Качагура, гэты судовы працэс з'яўляецца відавочным заказам КДБ каб адпомсціць яму і ягонай сям'і за актыўную грамадскую пазіцыю.

Яшчэ адна скарга была падададзена на пратакол судовага паседжання, дзе былі адлюстраваныя скажоныя паказанні сведкаў. Пастар прыклаў да скаргаў дыск з аўдыёзапісам, зробленым, з дазволу суддзі, падчас судовага працэсу.

«На дыску адлюстраваная цалкам іншая карціна, няхай разбіраюцца. Ва ўсёй гэтай справе мне дапамагае праваабаронца Сяргей Усцінаў. Ён рыхтаваў для мяне ўсе скаргі, дакументы, даваў парады, кансультаваў. Я вельмі ўдзячны гэтаму чалавеку, сапраўднаму прафесіяналу», — адзначыў Уладзімір Качагур.

Аднак на гэтым ціск на сям'ю пратэстанцкага пастара не спыніўся. Жонцы Уладзіміра Качагура Таццяне адмовілі ва ўладкаванні на працу.

У сярэдзіне траўня Таццяна Качагур прыйшла ў мясцовае паштовае аддзяленне, калі даведалася, што туды патрабуецца лістанош. Ёй прапанавалі пару дзён паспрабаваць працаваць, а потым афармляцца афіцыйна.

Жанчына сабарала ўсе неабходныя дакументы — для гэтага ёй спатрэбілася, у тым ліку, прайсці медкамісію і атрымаць платную даведку з міліцыі, якая каштуе 35 тысяч рублёў. Усе дакументы жанчына аднесла ў аддзел кадраў, каб пісаць заяву аб прыёме на працу. З гэтай мэтай яна раніцай 20 красавіка прыйшла на пошту — і прачакала там дзве гадзіны, пакуль сакратар не вярнула ёй дакументы.

«Яны ў Вас у парадку, але намеснік начальніка пошты сказала: Качагур на працу не прымаць! І без тлумачэнняў», — пачула спадарыня Таццяна.

«Сакратар дадала, што такога ніколі не было, каб не бралі на працу без тлумачэнняў. Тым больш — усё было нармальна да гэтага дня. Адзіную прычыну такога абыходжання я і мая жонка бачым у нашай актыўнай апазіцыйнай дзейнасці», — кажа пастар Уладзімір.

**Прэсавая служба БХД**

# Выйшла кніга «Маніторынг парушэнняў правоў на свабоду веравызнання і дзейнасці рэлігійных аргнізацыяў у 2007–2008 гг.»

***Пабачыла свет новае выданне «Маніторынга парушэнняў права на свабоду веравызнання і дзейнасці рэлігійных аргнізацыяў у 2007–2008 гг.». Кніга выдадзена намаганнямі грамадзянскай ініцыятывы «За свабоднае веравызнанне». Гэтым разам выданне змяшчае не толькі факты і фотаздымкі за два гады назірання, але таксама дапоўненае «Дадаткам», у якім можна знайсці дакументы, звароты, скаргі, што суправаждалі адстойванне правоў беларускімі вернікамі.***

2007 і 2008 гады — перыяд вядзення маніторынга — даволі насычаны фактамі час. Мелі месца і высылкі служыцеляў з краіны, штрафы і арышты за правядзенне рэлігійных сходаў і багаслужэнняў; супольнасці беларускіх вернікаў актыўна змагаліся за свае будынкі і права вызнаваць веру. Інфармацыйныя артыкулы, а таксама эксклюзіўная інфармацыя паводле гэтых падзеяў размешчана ў «Маніторынгу» ў храналагічным парадку. Электронная версія Маніторынгу ёсць на сайце «За свабоднае веравызнанне» www.forreligiousfreedom.info.

Уступным артыкулам да выдання служыць інтэрв'ю з вядомай юрысткай і праваабаронцай, сябрам ініцыятывы «За свабоднае веравызнанне» Дзінай Шаўцовай (*на фота*). У сваіх адказах на пытанні Д. Шаўцова заўважае, што акрэслены перыяд адзначыўся не толькі парушэннямі, а таксама інфармацыйнай кампаніяй у дзяржаўных СМІ, накіраванай на дыскрэдытацыю вернікаў. «Даволі часта супрацьстаянне вернікаў і ўлады суправаджаліся «каментарамі» ў навінах дзяржаўных тэлеканалаў. Гэтыя каментары былі падобныя да прапагандысцкіх «страшылак» савецкіх часоў пра секты. Распаўсюджанне такой інфармацыі ў СМІ і іншых крыніцах нараджае і падпітвае рэлігійную нецярпімасць», — зазначыла праваабаронца.



Мэтай выдання «Маніторынга» аўтары і складальнікі бачаць давядзенне да грамадства сістэматызаванай інфармацыі ў галіне права на свабоду сумлення. Факты, сабраныя ў «Маніторынгу», відавочна абмалёўваюць сітуацыю з правамі вернікаў у нашай краіне. Выдаўцы і складальнікі спадзяюцца, што кніга таксама зацікавіць дзяржаўныя ўстановы, якія сваёй мэтай маюць рэгуляванне гэтай сферы жыцця грамадства. А таксама выдаўцы пакладаюць надзею на тое, што «Маніторынг» будзе цікавым як прадстаўнікам усіх

МОНИТОРИНГ НАРУШЕНИЙ ПРАВА НА СВОБОДУ ВЕРОИСПОВЕДАНИЯ И ДЕЯТЕЛЬНОСТИ РЕЛИГИОЗНЫХ ОРГАНИЗАЦИЙ В БЕЛАРУСИ В 2007–2008 гг.

канфесій, якія існуюць у Беларусі, так і грамадскім актывістам, лідэрам і прадстаўнікам СМІ. Ініцыятыва «За свабоднае веравызнанне» мае намер выдаваць падобныя маніторынгі штогод. Таму паведамляйце, калі ласка, пра факты парушэння заканадаўства, — пакідайце паведамленні на нашым сайце www.forreligiousfreedom.info.

**«За свабоднае веравызнанне»**

# Суд адмяніў штраф Дзмітрыю Смыку

***Прэзідыум Гомельскага абласнога суда, паводле пратэсту Вярхоўнага суду, адмяніў штраф у памеры 3,5 мільёны рублёў верніку абшчыны «Сведкі Еговы» Дзмітрыю Смыку за ўхіленне ад вайсковай службы.***

15 красавіка ў суд сп. Смык прыехаў з жонкай Аленай і 5-гадовай дачкой. Яны, як і ўсе тыя, хто прыйшоў маральна падтрымаць Дзмітрыя, з радасцю сустрэлі вызначэнне калегіі на адмену штрафа.

Скасаваныя вырак суду Цэнтральнага раёна Гомеля і пастанова калегіі крымінальных справаў абласнога суду, якая ў снежні мінулага года пакінула касацыйную справу спадара Смыка без зменаў:

«Паўгады як на цвіках... Усе гэтыя суды — гэта вельмі цяжка. Калі б, як лічылі папярэднія суды, у мяне была нібыта надуманая вера, я б ужо даўно здаўся. Я працягваю змагацца. І тое, як скончылася сёння судовая калегія, мяне толькі ўмацоўвае ў маёй веры. У Бібліі сказана, што Бог Егова — гэта «я стану тым, кім пажадаю стаць». У маім выпадку Ён стаў Збаўцам, суддзёй вышэйшай інстанцыі».



Фота Радыё Свабода

Пацікавіліся ў сям'і Смыкаў, ці звязана неяк, на іх думку, скасаванне штрафу за так званае ўхіленне ад вайсковай службы з Днём Канстытуцыі, які адзначаўся 15 красавіка ў Беларусі.

Гаворыць жонка Дзмітрыя, спадарыня Алена, таксама верніца абшчыны «Сведкі Еговы»:

«Вельмі прыемна, што мужа апраўдалі. Але я думаю, што гэта не з-за Дня Канстытуцыі. Для Еговы не важна, які сёння дзень. Ён у любы дзень робіць тое, што трэба».

Ініцыятар грамадзянскай кампаніі «За альтэрнатыўную грамадзянскую службу» Міхась Пашкевіч, які таксама быў у судзе, лічыць, што адмена штрафа Дзмітрыю Смыку, а таксама Яўгену Якавенку і вызваленне з турмы верніка Яна Міхайлава — звязаныя паміж сабой:

«Я думаю, што мы бачым зараз дзяржаўную замову на скасаванне ўсіх гэтых спраў. Я не думаю, што яшчэ год таму наша дзяржава планавала, што пытанне ўзнікне, у тым ліку і на ўзроўні міжнароднай супольнасці, на ўзроўні рэзалюцыі Еўрапарламента і даклада Дзярждэпартамента ЗША пра ціск на беларускіх грамадзян па пытаннях альтэрнатыўнай службы. Такой праблемы раней не існавала, а зараз яна ўзнікла. Намаганняў чатырох хлапцоў хапіла, каб дзяржава вырашыла не ствараць цяжкасці там, дзе іх не павінна быць».

Крымінальную справу верніка Дзмітрыя Смыка за ўхіленне ад вайсковай службы нанава разгледзіць суд Цэнтральнага раёна. У пратэсце Вярхоўнага суду сказана, што вернік пакараны штрафам тэндэнцыйна, без уліку ягоных тлумачэнняў і наяўнасці даведкі абшчыны «Сведкі Еговы» пра тое, што Дзмітры Смык прыняў пасвячэнне ў вернікі яшчэ пяць гадоў таму.

**Радыё «Свабода»**

# Ці трэба выкладанне рэлігіі ў беларускіх школах?

***Як улічыць інтарэсы прадстаўнікоў шматлікіх канфесій, якія традыцыйна існуюць у нашай краіне? Хто будзе навучаць рэлігіі? Пакуль што пытанне вядзення рэлігійнай адукацыі лабіруецца прадстаўнікамі Праваслаўнай царквы. Што на гэты конт думаюць каталікі і пратэстанты? Дыскусія на тэму рэлігійнай адукацыі набывае асаблівую вастрыню з пачаткам новага навучальнага года.***



Інстытут тэалогіі БДУ лічыць неабходным увесці ў школах урокі рэлігійнай культуры. Пра гэта 28 чэрвеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў начальнік Цэнтра міжнародных сувязяў і развіцця тэалагічнай адукацыі Інстытута тэалогіі БДУ Рыгор Даўгяла. Паводле яголых слоў, увядзенне ўрока рэлігійнай культуры дазволіць данесці да маладога пакалення традыцыйныя каштоўнасці.

Даўгаяла лічыць, што гэта павінна быць абавязковая дысцыпліна па выбары: для праваслаўных — курс праваслаўнай культуры, для католікаў — курс з акцэнтам на каталіцкія каштоўнасці, для іудзеяў — на іудзейскія, для мусульман — на мусульманскія. Разам з тым, кожная з дысцыплін па выбары павінна ўключаць веды аб традыцыях іншых рэлігійных канфесій ці галін хрысціянства. Дзецям няверуючых бацькоў прапануецца «вывучаць курс свецкай этыкі». Па выбраным прадмеце вучні павінны здаваць экзамен.

«Па такім прынцыпе існуе сістэма адукацыі ў сферы рэлігійнай культуры практычна ва ўсёй Еўропе», — заявіў прадстаўнік Інстытута тэалогіі. Пры гэтым прафесіяналізм выкладчыкаў кантралюецца з боку дзяржавы, а царква, у сваю чаргу, сочыць за выкананнем дагматычных абавязацельстваў.

Як лічыць чыноўнік, шырокае распаўсюджанне ўрокаў рэлігійнай культуры ў еўрапейскіх краінах сведчыць пра разуменне іх важнасці кіраўнікамі дзяржаў. Рэлігійная матывацыя сёння «прысутнічае ў жыцці каласальнай колькасці людзей», і для дзяржавы выгадна кантраляваць гэты працэс з тым, каб прадказаць паводзіны грамадства.

Магчыма, што выказванне Рыгора Даўгялы стала адказам на прапанову главы Праваслаўнай царквы Мітрапаліта Філарэта, які напрыканцы мая прапанаваў дзяржаве вызначыцца з формай уключэння элементаў рэлігійнай культуры у беларускую сістэму адукацыі.

Гэтая думка з вуснаў Філарэта прагучала 26 мая падчас XVI навуковых Кірыла-Мяфодзьеўскіх чытанняў у Мінску.

«Відавочна, што Беларусь ушчыльную падышла да неабходнасці вызначыцца з формай уключэння элементаў рэлігійнай культуры ў сістэму адукацыі. У шэрагу акадэмічных дысцыплінаў асновай для развязання гэтай задачы можа служыць рэлігіязнаўства, канфесійна нейтральная навуковая дысцыпліна, якая склалася ў сусветнай гуманітарнай практыцы ў апошнія паўтара стагоддзі. Пры гэтым уяўляецца, што статус рэлігіязнаўчых курсаў у сістэме адукацыі не павінен быць факультатыўным. Такі крок толькі дыскрэдытуе ідэю. Бо калі мы кажам пра вышэйшую, пра важную нацыянальную задачу, то чаму вызначаем для яе гэтак малаважны статус?», — сказаў галава Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Паводле яго ных словаў, гаворка павінна ісці пра ўключэнне прадметаў рэлігіязнаўчага плану ў агульную сетку раскладу. Такімі прадметамі, паводле меркавання Мітрапаліта Філарэта, маглі б стаць у сярэдняй школе курс гісторыі рэлігіі, у вышэйшай школе — курс рэлігіязнаўства. «Дакладна і тое, што гэтыя дысцыпліны трэба забяспечыць належным метадалагічным і тэарэтычным зместам. Выкладчыкамі могуць быць выпускнікі гуманітарных спецыяльнасцяў — філасофіі, гісторыі, сацыялогіі, псіхалогіі, тэалогіі і іншых. Але гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі яны атрымаюць якасную рэлігіязнаўчую падрыхтоўку падчас свайго прафесійнага навучання. А гэта значыць, што ў гуманітарных ВНУ рэлігіязнаўству будуць навучаць як спецыяльнай дысцыпліне», — падкрэсліў ён.

Акрамя таго, у красавіку 2010 года Беларуская Праваслаўная Царква накіравала ў парламент Беларусі на імя старшыні Палаты прадстаўнікоў сп. Ул. Андрэйчанкі, старшыні камісіі па культуры і адукацыі сп. Ул. Здановіча, а таксама ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прапанову пра ўнясенне змен у Закон «Аб адукацыі» і ў праект Кодэкса аб адукацыі ў той частцы, якая тычыцца рэгулявання ўзаемаадносін традыцыйных цэркваў і рэлігіяў і сістэмы свецкай адукацыі.

Прапануецца сфармуляваць 3-ю частку 1-га артыкула часткі №1 Закона наступным чынам: «Для эфектыўнага выкарыстання ў асвеце і адукацыі навучэнцаў духоўнага патэнцыялу традыцыйных для Рэспублікі Беларусь рэлігіяў установы адукацыі могуць узаемадзейнічаць у сферы навуковых даследаванняў і навучальна-выхаваўчай дзейнасці з зарэгістраванымі рэлігійнымі арганізацыямі з улікам іх уплыву на фармаванне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцыяў беларускага народа. Удзел навучэнцаў і іншых суб'ектаў адукацыі ў такім узаемадзеянні з'яўляецца добраахвотным.

Парадак і ўмовы ўзаемадзеяння вызначаюцца Урадам Рэспублікі Беларусь пасля ўзгаднення з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, а яго змест і формы вызначаюцца дамовай пра супрацоўніцтва паміж Саветам міністраў Рэспублікі Беларусь ці галіновым міністэрствам і рэспубліканскім органам кіравання рэлігійнага аб'яднання».

«Нам здаецца, што прапанаваная фармулёўка, з аднаго боку, не дапускае ў сістэму адукацыі прадстаўнікоў таталітарных і экстрэмісцкіх рэлігійных сект і рухаў, а з іншага боку — дае магчымасць арганізаваць узаемадзеянне царквы і школы ў пытаннях духоўна-маральнага выхавання навучэнцаў на прыкладзе дзяржаваў-суседзяў: Расіі, Літвы, Украіны, Нямеччыны і іншых краін. Узмацненне тэксту Закона вышэйпаказанай фармулёўкай, на наш погляд, будзе своечасовай мерай, якая дазволіць зрабіць унёсак ва ўмацаванне гуманітарнай бяспекі нашай краіны», — сказана ў лісце за подпісам Мітрапаліта Філарэта.

**Паводле матэрыялаў беларускай прэсы**

## Выкладанне рэлігійнай культуры ў школах: як гэта робіцца ў іншых краінах?

### Вялікабрытанія

Паводле закона гэтай дзяржавы, усе школьныя праграмы павінны ўтрымліваць рэлігійны кампанент.

Закон аб адукацыі 1996 г. кажа: «Кожная прынятая школьная праграма павінна адлюстроўваць той факт, што рэлігійныя традыцыі ў Вялікабрытаніі ў цэлым хрысціянскія, прымаючы пад увагу вучэнні і практыку іншых асноўных рэлігій, прадстаўленых у краіне». Пасля ўзгаднення са школьнымі ўладамі дзіця мае магчымасць адмовіцца ад урокаў рэлігіі і ад абавязковай калектыўнай хрысціянскай малітвы. Але вітаецца замена, а не поўная адмова. Таксама можна змяніць і саму малітву. У краіне дзейнічаюць і рэлігійныя школы, напрыклад ісламскія, якія могуць атрымліваць фінансаванне ад дзяржавы.

### Германія

Паводле берлінскага мясцовага закона, адрознага ад заканадаўстваў іншых земляў, правядзенне рэлігійных заняткаў з'яўляецца справай тых ці іншых Цэркваў ці рэлігійных грамадаў. Школьнікі могуць добраахвотна браць у іх удзел, прытым вынікі паспяховасці па рэлігійных дысцыплінах не ўлічваюцца падчас пераводу вучня ў наступны клас.

Адказнасць за дзеянні Цэркваў у дачыненні школьнікаў ускладаецца на зямельныя органы ўлады.

### Іспанія

У адпаведнасці з заканадаўствам, «рэлігійным арганізацыям, з якімі іспанская дзяржава заключыла пагадненне аб супрацоўніцтве, гарантуецца прадастаўленне магчымасці весці рэлігійную адукацыю ў дзяржаўных і прыватных школах пры наяўнасці адпаведнага жадання з боку вучняў і іх бацькоў». Рэлігійная адукацыя з'яўляецца факультатыўнай, але ажыццяўляецца на розных узроўнях — ад дзіцячага садка да універсітэта. У якасці альтэрнатывы можна вывучаць нерэлігійныя этычныя прадметы.

### Польшча

У Польшчы закон Божы ў школе такі ж абавязковы прадмет, як польская мова ці матэматыка. Выкладанне ажыццяўляецца на альтэрнатыўнай аснове. Сістэма нагадвае іспанскую. З тым адрозненнем, што ў Іспаніі ў школе выкладаюцца асновы тых рэлігій, суполкі якіх дасягнулі пагаднення з дзяржавай. А ў Польшчы ўсё залежыць ад колькасці вучняў той ці іншай канфесіі. Паводле польскіх законаў, каб вывучаць асновы сваёй рэлігіі, у класе мусіць быць не менш за тры вучні-адзінаверцы. Школьная адміністрацыя і настаўнікі ведаюць аб веравызнанні кожнага дзіцяці і ўлічваюць гэта на працягу ўсяго навучальнага працэсу.

### Фінляндыя

Дзеці пачынаюць вывучаць рэлігію з першага класа. Большасць сем'яў адносяцца да лютэранскіх прыходаў, і 94% дзяцей вывучаюць асновы менавіта гэтай рэлігіі. Аднак ёсць магчымасць вывучаць праваслаўе (яму аддаў перавагу 1% вучняў), каталіцызм, іслам — па жаданні, а школа мусіць даць кваліфікаванага настаўніка. Калі ж бацькі — атэісты, дзіця можа вывучаць альтэрнатыўны прадмет — этыку.

### Францыя

Першая еўрапейская краіна, дзе парламент прыняў закон, у якім забаранецца насіць ў дзяржаўных навучальных установах «сімвалы або адзенне, якія відавочна паказваюць на рэлігійную прыналежнасць». У першую чаргу гаворка ідзе пра жаночую мусульманскую хустку — хіджаб, юдэйскую шапачку — кіпу і хрысціянскі крыж вялікіх памераў. Французскія ўлады не саступілі нават пасля мноства пратэстаў, бо новы закон, на іх думку, абараняе адну з галоўных каштоўнасцяў Рэспублікі — свецкі характар адукацыі. У Францыі каталіцызм застаецца асноўнай рэлігіяй, але на другія пазіцыі выходзіць іслам. Зараз у краіне жыве каля 6,5 млн мусульманаў. Дзякуючы вялікаму прытоку выхадцаў з ісламскіх краін і высокаму ўзроўню нараджальнасці ў гэтым асяродку, іх доля няўхільна расце.

# Школа паміж атэізмам і рэлігіяй

***Апошнім часам узнікае нямала дыскусій на тэму патрэбы ўвядзення ў школах прадмету па рэлігійнай культуры. Можна са зразуменнем аднесціся да дыскусіі на тэму відавочных праблем, звязаных з тым, хто і як можа выкладаць гэты прадмет. Аднак варты ўвагі сам спосаб дыскусіі праціўнікаў увядзення ў школах рэлігійнай адукацыі. І хоць не хочацца рабіць чорнага піяра некаторым абаронцам атэістычнай сістэмы адукацыі, то ўсё ж варта звярнуць увагу на іх уяўленні аб хрысціянстве і прасачыць, на чым грунтуецца іх аргументацыя супраць рэлігійнай адукацыі ў школе.***

### Страшылкі ад карэспандэнта «Звязды»

Па просьбе чытачоў возьмем за прыклад два артыкулы карэспандэнта газеты «Звязда» Сымона Свістуновіча. Першы яго артыкул выйшаў пад загалоўкам «Сусветная культура ці рэлігійная?» («Звязда», 02.06.2010). Годны і ясны адказ карэспандэнту даў прарэктар інстытута тэалогіі БДУ Г. Пятроўскі ў артыкуле «З кім і пра што спрачаемся» («Звязда», 11.06.2010). Тады сп. Свістуновіч апублікаваў чарговы артыкул пад тытулам «Вучыце ў нядзельных школах, а не ў дзяржаўных...» («Звязда», 22.06.2010). Мяркуючы па гэтым артыкуле, журналіст не задумаўся над аргументамі навукоўцы.

Дадзеныя артыкулы карэспандэнта газеты «Звязда» добра адлюстроўваюць пэўны спосаб мыслення аб хрысціянстве тых прадстаўнікоў нашага грамадства, якія пратэстуюць супраць працэсу дэатэізацыі не толькі сістэмы адукацыі, але беларускага грамадства ўвогуле.

### Школа: інфарматар ці выхавальнік?

На самым пачатку варта звярнуць увагу на фундаментальную праблему, якая незаўважальна стаіць за ўсімі дыскусіямі на тэму прысутнасці рэлігіі ў школе. Гэта пытанне аб канцэптуальным разуменні ролі школы: інфармаванне ці выхаванне? У залежнасці ад адказу на гэтае пытанне разыходзяцца шляхі дыскусіі.

Існуе пазіцыя, што школа павінна адыгрываць толькі інфармуючую ролю і не павінна займацца выхаваннем. Прыхільнікі такога погляду пераконаныя, што можа існаваць школа, якая не будзе фарміраваць нейкі канкрэтны светапогляд вучня, якая будзе вольная ад ідэалогій. Сфера выхавання ў такой сітуацыі перакладаецца на па-за школьнае асяроддзе (сям'я, Царква, нейкія іншыя грамадскія інстытуты). За такі тып школы заўсёды будуць змагацца прыхільнікі ідэалогіі індывідуалізму, лібералізму, секулярызму. Яны вераць у тое, што веды не выхоўваюць, што школа можа даваць нейтральную інфармацыю пра свет, вольную ад якіх-небудзь перакананняў. Парадаксальна, але прапанова такой мадэлі школы — гэта ўжо светапогляд, гэта ўжо выхаванне ў пэўным кірунку.

Канцэпцыя інфармуючай школы рассыпаецца пры сустрэчы з рэальным светам. Па-першае, кожная інфармацыя фарміруе (выхоўвае) светапогляд чалавека. Па-другое, кожны настаўнік падае вучням інфармацыю праз фільтр свайго светапогляду, магчымасцей і жадання. Па-трэцяе, няма адной нейкай ідэальнай навукі ў цэлым, а кожны вучоны зыходзіць з нейкай выбранай тэорыі. Выбар тэорыі (пункт выхаду навукі) залежыць ад светапогляду навукоўцаў, а ў сітуацыі сферы адукацыі — ад тых, хто стварае школьныя праграмы і падручнікі. А нават ва ўмовах дыверсіфікацыі школьных праграм і падручнікаў усё роўна трэба прыйсці да нейкага кансенсуса, згадзіцца на адну праграму і адзін падручнік, каб была магчымая праца ў групе. Кожны выбар будзе азначаць адмову ад альтэрнатыўнай магчымасці, селекцыю інфармацыі (выкладаных ведаў).

Другая канцэпцыя, якую мы назавём тут «выхаваўчай школай», зыходзіць з перакананні, што адукацыя адыгрывае велізарную ролю ў фарміраванні светапогляду вучня. Таму сярод безлічы магчымых адукацыйных праграм належыць выбраць (або стварыць) найбольш аптымальную для дадзенага грамадства. Як бачым, усё ў канечным выніку залежыць ад таго, па якім крытэрыям будзе ствараецца адукацыйная праграма. А выбар крытэрыя, у сваю чаргу, зале-

(Заканчэнне на стар. 6—7.)

# Школа паміж атэізмам і рэлігіяй

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5.)

жыць ад мэты, якую ставіць перад сабой творца канцэпцыі адукацыі. А мэта залежыць ад адказу на пытанне: які чалавек прыходзіць у школу і які павінен з яе выйсці? І тут мы даходзім да праблемы канцэпцыі чалавека ўвогуле. Уцякчы ад прыняцця нейкага бачання чалавека немагчыма. Кожны варыянт (або яго адсутнасць) будзе ўжо выбарам пазіцыі, светапогляду, адказам на пытанне аб натуры, мэце і сэнсе існавання чалавека як такога.

## Адукацыя і ідэалогія

Савецкая адукацыйная сістэма была створаная з мэтай фарміравання штучнага тыпу чалавека — «homo sovieticus». Мэтай гэтай сістэмы была ідэалагічная стэрылізацыя грамадства (знішчыць т.зв. традыцыйнае грамадства), каб сфарміраваць новую «ідэальную» супольнасцю людзей, дзе індывідуум быў бы толькі функцыяй (інструментам) групы, а дакладней — яе лідэраў. У выніку мэтай адукацыйнай сістэмы стала не развіццё (раскрыццё патэнцыяльнасці і перспектыў) канкрэтнага чалавека як асобы, а мадэляванне чалавека-функцыі для рэалізацыі найвышэйшай, паводле марксізму-ленінізму, мэты — фарміравання ідэальнага механічнага грамадства.

Пасля фіяска камуністычнай утопіі пачаўся працэс карэкціроўкі сістэмы адукацыі. І дыскусіі вакол дэкамунізацыі гэтай сістэмы, вяртання ў школу рэлігійнага навучання з'яўляецца паказчыкам таго, што адказныя людзі разумеюць неабходнасць карэкціроўкі састарэлай антыасабовай сістэмы. Аднак належыць згадзіцца з занепакоенасцю сп. Свістуновіча ў тым, што рэлігійная адукацыя можа стацца інструментам дзяржаўнай або канфесійнай палітыкі. У сутнасці гэта была б тая самая, што і пры Саветах сістэма па фарміраванні сацыяльных зомбі, толькі заснаваная на іншай ідэалогіі. Таму варта было б дыскутаваць не аб патрэбе рэлігіі, але аб патрэбе абароны рэлігійнай культуры ад розных формаў яе дэвіяцый.

Праблема крытыкаў выкладання рэлігійнай культуры ў школе звязана з праблемамі светапогляду гэтых людзей. Як у адным, так і ўдругім сваім артыкуле ўзгаданы намі карэспандэнт «Звязды» зводзіць дыскусію аб выкладанні рэлігійнай культуры ў школе да крытыкі рэлігіі, хрысціянства ўвогуле. Аднак напады аўтара апіраюцца не на аб'ектыўных ведах аб хрысціянстве, Царкве, тэалогіі, але на паўтарэнні нацяжак і клішэ савецкай прапаганды. Раскрыць беспадстаўнасць гэтых нападаў імкнуўся ў сваім артыкуле сп. Пятроўскі. Але, мяркуючы па чарговым артыкуле сп. Свістуновіча, аргументы прафесара былі праігнараваныя. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова параўнаць змест артыкулаў.

## За што не любяць хрысціянства?

На чым жа найчасцей грунтуецца крытыка хрысціянства ў асяроддзі постсавецкай інтэлігенцыі? Вышэй узгаданыя артыкулы могуць быць класічным прыкладам антыцаркоўных тэзісаў. Прыгледзімся да некаторых з іх.

1) Тэзіс аб супярэчлівасці Бібліі. Не хочацца верыць у тое, што многія прадстаўнікі нашай постсавецкай інтэлігенцыі нічога не ведаюць аб тым, што існуе цэлая група навук (!) па даследаванню Св. Пісання. Метады гэтых дысцыплін адпавядаюць усім патрабаванням, якія ставяцца перад кожнай навукай (аб'ектыўнасць, лагічнасць, правяральнасць і інш.). Калі б Біблія была наборам супярэчлівых выказванняў, то яна не вытрымала б навуковай крытыкі. Аднак даследаванні паказваюць гарманічнасць і сэнсаву глыбіню ўсяго Пісання. На гэтую тэму існуюць тысячы сур'ёзных навуковых даследаванняў і працуюць цэлыя інстытуты. Падобныя антыбіблейскія тэзісы з'яўляюцца толькі паказчыкам таго, які тэалагічны вакуум пакінула пасля сябе эпоха атэізма ў свядомасці некаторых прадстаўнікоў нашага грамадства.

2) Тэзіс аб канфлікце паміж навукай і рэлігіяй. Канфлікт па сутнасці не можа існаваць, бо навука і рэлігія — дзве зусім розныя сферы жыццядзейнасці чалавека. Мэта навуковага пазнання — пошук зразумення свету, даступнага вопыту і розуму. Мэта рэлігіі — дапамагчы чалавеку паяднацца з Богам. Канфлікт мог бы быць толькі ў сітуацыі узаемавыключальнасці мэтаў. Але, як бачым, пазнанне натуры не супярэчыць пазнанню звышнатуральнага, а наадварот, гэтыя тыпы пазнання могуць узаемадапаўняцца і ўзаемазбагачацца. Найлепшым прыкладам гэтага з'яўляецца тэалогія.

На працягу гісторыі канфлікты паміж Царквой і нейкімі вучонымі ўзнікалі не на ўзроўні навукі, але рэлігійнай або царкоўнай дыскусіі. Яскравым прыкладам гэтага можа быць вядомая з савецкіх падручнікаў постаць Дж. Бруно, канфлікт якога з Царквой меў не навуковы, але рэлігійны характар. Гэты чалавек прапагандаваў пантэізм (усё ёсць Богам), заклікаючы людзей да звяржэння хрысціянства, якое стаіць на пазіцыях тэізма (прырода — не Бог). Думаю, не трэба працягваць пра ўсе магчымыя грамадскія наступствы канфлікту і як падобныя праблемы вырашалі сярэднявечныя палітыкі. Пытанні аб сацыяльна важных рэлігійных канфліктах і спосабах іх вырашэння належаць не да сферы навукі і рэлігіі, але палітыкі. І тое, што атэісты вешалі на хрысціянства ярлыкі цемрашальства, мела не навуковыя, але сацыяльна-палітычныя прапагандысцкія прычыны.

3) Тэзіс аб вузка палітычных мэтах існавання рэлігіі. Паводле веры матэрыяліста, не можа існаваць ніякіх іншых мэтаў, сэнсаў, матывацый у чалавека па-за фізічнай прасторай яго жыцця, бо іншая (звышнатуральная) — проста не існуе. Зыходзячы з такога погляду, кожны атэіст будзе глядзець на рэлігійны і маральны кодэкс хрысціяніна або як на наіўнае вар'яцтва, або як на хітрую прагматыку. Калі няма Бога і нічога звышнатуральнага, то трэба неяк растлумачыць існаванне Царквы. Адкінуўшы варыянт, што ўсе вернікі — зборышча вар'ятаў, трэба прыняць альтэрнатыўны варыянт, што Царква ўяўляе сабой хітрае сацыяльнае ўтварэнне, якое мае тыповыя для кожнага грамадскага інстытута палітычныя мэты. Адказ знойдзены. Мазаіка атэіста склалася. Праверыць памылковасць тэзіса можа толькі гісторыя і моманты, калі Царква яскрава засведчыць, што шкала яе мэтаў і каштоўнасцей сягае па-за межы натуральных (зямных) інтарэсаў. Здаецца, у гісторыі было шмат прыкладаў, калі Царква прайгравала ў сацыяльна-палітычных пытаннях з-за сваіх звышнатуральных прынцыпаў. Але гэтыя факты трэба жадаць бачыць. Усё залежыць ад добрай волі даследчыка.

4) Тэзіс аб гуманнасці атэізацыі і шкоднасці хрысціянізацыі. Змагары з рэлігійнасцю часта выкарыстоўваюць любую нагоду, каб пераканаць грамадства ў шкоднасці хрысціянства. Атэіст згаджаецца толькі на вузка прыватны, маргінальны характар веры і Царквы. А вызваленую ад рэлігійнасці прастору павінен заняць атэізм, калі не тэарэтычны (свядомы), то прынамсі практычны (несвядомы). Аднак гісторыя Еўропы, дзе ў апошнія стагоддзі актыўна рэалізуецца праект дэхрысціянізацыі, яскрава паказвае дэструктыўны характар атэістычнай (секулярнай) сістэмы, якая ўжо цяпер пагражае гуманітарнай катастрофай для еўрапейцаў.

## Догмы атэістычнага светапогляду

Прычыны ж рэальнай небяспечнасці атэістычнага мыслення крыюцца ў яго фундаменце. Вось некаторыя з асноўных прынцыпаў, на якіх трымаецца светапогляд сучасных атэістаў:

1) Вера ў тое, што чалавек — гэта добрая і разумнейшая за іншыя жывёлы разнавіднасць малпы, якая для шчасця патрабуе толькі заспакаення матэрыяльных (жывёльных) патрэбаў.

2) Вера ў натуральную дабрыню і дасканаласць чалавека, якія псуюцца ў працэсе «выхаваўчага насілля» (лозунг індывідуалізму), ад якога можна вызваліць кожную асобу, калі заняцца стварэннем ідэальнага грамадства (розныя формы сацыялізмаў).

3) Вера ў магчымасць нематываванай маральнасці (грамадства можна пабудаваць на тым, што ўсе будуць высока маральнымі проста так). Увогуле, атэістычная прапаганда часта адклікаецца да «аргумента», што ўсё існуе «проста так» (беспрычыннасць усяго). Нягледзячы на прымітыўнасць і інфантыльнасць такога тыпу мыслення, яно даволі паўсюднае нават сярод многіх сучасных навуковых дзеячаў. Гэта звязана з тым, што выбар альтэрнатыўнага варыянту (усё мае сваю прычыну), прымусіў бы вучонага-атэіста прыняць (на моцы логікі) існаванне першапрычыны і згадзіцца на тэізм, прызнаць большую рацыянальнасць рэлігіі, чым атэізму. Атрымліваецца абсурдная сітуацыя, калі ў імя ідэалогіі атэізма, вучоны абмяжоўвае сваё мысленне і навуковы патэнцыял. Яшчэ горшая сітуацыя, калі гэтая рэдуктыўная ідэалогія выдаецца за «навуковую».

4) Вера ў абсурднасць чалавечага існавання (нараджаецца, каб памерці). Гэтая вера гене-

рue розныя формы нігілізму, песімізму, пагарды да чалавека, апатыі і нежадання развівацца (бо няма матывацыі, сэнсу, персанальнай мэты). У больш прымітыўнай форме гэтая «вера» выражаецца ў агнастыцызме (уцёках ад пытанняў аб сутнасці, мэце, прычынах), які з-за сваёй ідэйнай бясплоднасці і тупіковасці зноў жа заканчваецца экзістэнцыяльным крызісам і прыводзіць да дэградацыі чалавека.

### Калі ёсць атэізм, чаму не можа быць тэізму?

Можна было б прыводзіць іншыя прыклады схемы матэрыялістычна-антыхрысціянскага мыслення. Але, каб не стамляць чытача, пяройдзем да цэнтральнай праблемы, якая часта замоўчваецца ў выступленнях супраць прысутнасці хрысціянскай культуры ў школе. У сваёй аргументацыі змагары з рэлігіяй у школе не жадаюць заўважаць, што існуючая ў Беларусі сістэма адукацыі не мае нейтральнага характару.

Савецкая школа асноўваецца на ідэалогіі атэізму і матэрыялізму. Рэдуктыўны падыход гэтага светапогляду, а таксама яго дэструктыўныя наступствы нясуць у сабе небяспеку дэградацыі грамадства. Заклікаючы не дапускаць хрысціянства ў школу, антыцаркоўна настроеныя асобы не заўважаюць, што дзеці абсалютнай хрысціянскай большасці нашага грамадства знаходзяцца пад моцным прэсінгам атэістычнай ідэалогіі, якая па сённяшні дзень пануе ў многіх школьных падручніках.

Калі абаронцы ранейшай сістэмы адукацыі імкнуцца бараніць прынцыпы справядлівасці, захавання свабоды выбару, вольнасці ад ідэалогій, то няхай у першую чаргу застасуюць гэтыя аргументы да любай ім ідэалогіі матэрыялізму і атэізму, якая не збіраецца, а ўжо паўвека таму апанавала сістэму адукацыі.

Калі аўтара ўзгаданых намі артыкулаў непакоіць хрысціянізацыя атэістычнай школы, то на моцы таго ж права хрысціянаў непакоіць прымусовая атэізацыя іх дзяцей праз школу. Калі ня можна дапускаць да навучання тэізм, то таксама не можа быць і атэізму. Калі ў сістэме адукацыі прысутнічае атэізм, то чаму не можа быць тэізму?

Здаецца, скіраванне дыскусіі аб выкладанні ў школе рэлігійнай культуры ў рэчышча савецкай антыхрысціянскай прапаганды не нясе ніякай канструктыўнай карысці для сучаснай беларускай школы.

Патрэба здаровай рэлігійнай адукацыі настолькі зразумелая для фарміравання сапраўды адукаванай і развітай асобы, што размовы аб адваротным проста не маюць сэнсу. Хацелася б таксама звярнуць увагу на тое, што ў дыскусіі важна не зыходзіць у рэчышча псеўдапраблем і псеўдадыспутаў, калі замест сумеснага пошуку рацыі адбываецца толькі абмен суб'ектыўнымі меркаваннямі.

Неабходнасць і роля рэлігійнай адукацыі ў беларускай сістэме навучання і выхавання патрабуе сур'ёзнага і канструктыўнага абмеркавання. Больш карысці было б з абмеркавання спосабаў выкладання рэлігійнай культуры, абароны грамадскай свядомасці ад псеўдарэлігійнасці і інструменталізацыі хрысціянства. Такая дыскусія патрэбная сучаснаму беларускаму грамадству. Ад яе сур'ёзнасці ў многім залежыць, у якім кірунку будзе ісці працэс дэкамунізацыі і рэхрысціянізацыі не толькі школы, але і ўсяго нашага грамадства.

**Кс. Андрэй РЫЛКА**

# Лукашэнка і БПЦ: сімфонія з лейтматывам моцнай рукі

## Аналітычны артыкул Аляксандра Класкоўскага

***Хто яшчэ не зразумеў, чаму галоўны атэіст — праваслаўны? 22 красавіка, выступаючы на пасяджэнні Свяшчэннага сінода (нагода: мітрапаліту Філарэту споўнілася 75), афіцыйны лідэр расшыфраваў сваё асаблівае стаўленне да БПЦ.***

Большасць рэсурсаў працытавалі дзяжурныя пасажы, кшталту: «У дзяржавы і царквы — агульныя задачы: клопат аб шчасці народа, яго маральным здароўі, захаванні спакою і стабільнасці ў нашым беларускім доме».

Болей каларытна — спічрайтэры пашчыравалі — прагучала вось гэта: «Паміж свецкай і духоўнай уладай у Беларусі ўсталяваліся сугучныя адносіны, якія ў праваслаўі заведзена называць сімфоніяй».

Аднак самае красамоўнае выказванне прывёў канал АНТ, паводле якога Лукашэнка на сінодзе адзначыў, што «зарукай упэўненасці і веры беларусаў ёсць моцная ўлада, а яе галоўным хаўруснікам ды памочнікам у выразшэнні як духоўных, так і палітычных пытанняў заўжды была і застаецца праваслаўная царква».

Вось так, без эківокаў. Зрэшты, сапраўды — была і застаецца. Хаця, па ідэі, царква мусіць быць па-за палітыкай. Але ж — не. Прычым менавіта праваслаўная «вертыкаль» — так ужо склалася гістарычна — найболей прыдатная да падтрымкі, ухвалення і апраўдання моцнай улады, жалезнай рукі. Адсюль і такая «сімфонія».

Да касцёла у Лукашэнкі трохі іншае стаўленне не толькі таму, што Аляксандр Рыгоравіч паходзіць з усходу Беларусі. І не толькі таму, што католікаў у нас меней (хаця арыфметычны чыннік гэты палітык заўжды бярэ пад увагу — таму, напрыклад, не прамаўляе па-беларуску: на гэтым рэйтынг надта не ўздымеш).

Проста каталіцызм з гледзішча высокага начальства не так заточаны пад самадзяржаўны лад. Звыш таго, саўковую вертыкаль заўжды адпуджваў заходніцкі каларыт. Аб пратэстантызме і казаць няма чаго: зусім іншая філасофія, іншы дух.

Увогуле, міжканфесійны мір у нашай краіне — не столькі заслуга ўладаў, якія паводзяць сябе ў рэлігійных пытаннях даволі дубова, колькі вытворная гістарычнай талерантнасці.

Што ж да ўладаў, то яны, карыстаючыся лаяльнасцю як праваслаўнай, так і каталіцкай царквы, проста па меры патрэбы разыгрываюць рэлігійную карту дзеля палітычных мэтаў. У спадчыну ж ад імперскіх часоў цяперашнім кіроўным вярхам перадалося насцярожанае стаўленне да рэлігійных меншасцяў.

Менавіта дзеянні свецкай вертыкалі раз-пораз выклікаюць хваляванні вернікаў. Пры гэтым (вось яна, беларуская спецыфіка!) прыхільнікі розных веравызнанняў высвятляюць стасункі не між сабою, а з дзяржаваю.

Але ж, кладучы руку на сэрца, крытычная маса беларусаў не тое што не верыць фанатычна, а ўвогуле дэ-факта (калі не лічыць мінімуму каляндарных рытуалаў) індыферэнтная да рэлігіі. Таму і на канфесійныя гульні ўлады шырокая грамада не надта зважае.

Ну і, канечне, ад суперальянсу з праваслаўем (падмурак, памятаеце, быў закладзены адмысловым пагадненнем) Лукашэнку ўтрымаў правал «братняга яднання» з Расіяй.

Зараз БПЦ наканавана пакрысе беларусізавацца. Ужо і цяперашняя яе вярхоўка не надта хоча выглядаць маскоўскім філіялам. Новыя ж генерацыі святароў пэўна будуць мацней прасякацца нацыянальным духам.

Цяперашняе змушанае дыстанцыяванне Лукашэнкі ад Масквы будзе аслабляць і ўплыў апошняй на БПЦ. Тутэйшым іерархам хоцькі-няхоцькі давядзецца вызначацца, з кім яны.

**«Наша Ніва»**

# У Мінску мячэці пакуль не будзе

***Будаўніцтва мячэці ў Мінску адкладаецца з прычыны «неапраўданага размаху праекта».***

Такое меркаванне выказаў на прэс-канферэнцыі прэс-сакратар апарата Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Міхаіл Рыбакоў.

«Сталічная мячэць, як паказвае практыка, была задумана з размахам больш маштабным, чым рэальныя магчымасці і патрэбы мусульман, якія жывуць у Мінску, — растлумачыў Міхаіл Рыбакоў. — Як бачна, маштабы гэтага культавага будынка, які ўжо будуецца па вуліцы Грыбаедава, апынуліся завышанымі».

Як вынік — будаўніцтва сабornай мячэці ў Мінску доўгі час не можа завяршыцца.

«Дзяржава, вядома, не вітае даўгабудаў. Аднак яна не хоча ствараць прэцэдэнт, беручы на сябе клопат аб будаўніцтве мячэці», — сказаў Міхаіл Рыбакоў.

Адзначым, што ў Беларусі дзейнічае 6 культавых будынкаў мусульман, з іх 4 — у Гродзенскай вобласці.

**БЕЛТА**



*Будынак Мінскай мячэці. Паштоўка пач. XX ст.*

# Праваслаўныя патрабуюць пашпарты без нумароў

30 чэрвеня ў Магілёве каля двух дзясяткаў людзей сталага веку намагаліся патрапіць на судовае паседжанне ў Магілёўскім абласным судзе, дзе разглядаўся пазоў шэрагу праваслаўных вернікаў. Вернікі патрабавалі выдаць ім пашпарты грамадзян Беларусі без ідэнтыфікацыйнага нумару і тлумачылі, што такі нумар супярэчыць іх рэлігійным перакананьням.

На ўваходзе ў суд ахоўнік запатрабаваў пашпарты. Шмат хто з вернікаў прыйшоў у суд з іншымі дакументамі, бо пашпартоў у іх наогул няма. Забарону на ўваход вернікі пачалі аспрэчваць, тады ахоўнік выклікаў міліцэйскі спецназ. Ратаваць сітуацыю прыехалі двое дужых міліцыянтаў з аўтаматамі. Старым, якіх напалохаў выгляд міліцыянтаў, загадалі выйсці з будынка суду. Некаторыя, выходзячы, плакалі.

Пазней у суд прапусцілі толькі некалькіх чалавек, чые імёны прачытаў з паперы міліцыянт.

Праз паўгадзіны пасля выдварэння вернікаў з судовага будынка да двух спецназаўцаў пад'ехалі яшчэ пяцёра міліцыянтаў. Адзін з іх здымаў старых на відэаакамэру, а тыя спрабавалі давесці міліцыянтам свае патрабаванні.

Яшчэ праз паўгадзіны прысутныя на судзе вернікі паведамілі, што іхні пазоў не задаволілі.

**Радыё Свабода**



# Міністр Латушка: «Яўрэйская культура зрабіла неацэнны ўнёсак у культуру беларускую»

Беларусь і Ізраіль звязаны адзін з адным не толькі дыпламатычна, палітычна і эканамічна, але яшчэ і «гістарычнымі каранямі», заявіў 21 красавіка ў Мінску на прыёме ў гонар 62-годдзя незалежнасці Дзяржавы Ізраіль міністр культуры Беларусі Павел Латушка.

Паводле яго слоў, яўрэйская культура зрабіла неацэнны ўнёсак у беларускую культуру. Латушка зазначыў, што прыём не выпадкова праходзіць у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета — гэта толькі падкрэслівае культурныя сувязі паміж дзвюма краінамі.

У Беларусі заўсёды з глыбокай павагай ставіліся да гераічнага, працавітага і гордага народа Ізраіля, падкрэсліў міністр сельскай гаспадаркі Сямён Шапіра.

Ён павіншаваў ізраільскі народ з Днём незалежнасці і пажадаў «далейшага развіцця, росквіту і міру». На думку міністра, у апошнія гады адносіны паміж дзвюма краінамі актыўна развіваюцца.

Пасол Ізраіля Эдзі Шапіра выказаў удзячнасць беларусам за «пастаянную падтрымку».

На прыёме быў паказаны спектакль «Рустэр» — сучасны балет Цэнтра сцэнічнага мастацтва імя Сюзан Далаль (Ізраіль).

**Марат Гаравы, БелаПАН**

***Бюлетэнь «За свабоднае веравызнанне» Bulletin of «For free Denomination»***
**№ 26, April — June 2010.**
**Наклад 299 экземпляраў.**
**Паштовы адрас: 220012, а/с 101, Мінск, Беларусь.**
**E-mail: religionfreedom@tut.by**
**www.forreligiousfreedom.info**
**Тэл. (+375 17) 282–42–10.**



# Белорусские интеллектуалы против варварской «реконструкции» церкви

***Белорусские интеллектуалы выступили с открытым обращением против варварской «реконструкции» Борисоглебской церкви в Новогрудке. Его подписали философы Алесь Антипенко и Валентин Акудович, архитектор Ирена Лавровская, искусствоведы Сергей Харевский и Максим Жбанков. Ниже приводится полный текст обращения:***

*В средства массовой информации,*
*В Белорусский Экзархат Русской Православной Церкви,*
*Всем неравнодушным белорусским православным верующим,*
*В Министерство культуры Республики Беларусь*

Общество охраны памятников сообщило о реконструкции Борисоглебской церкви XII-XVII вв. в Новогрудке, которая имеет статус историко-культурной ценности всемирного значения. Реконструкцию осуществляет местный православный приход Русской Православной Церкви (РПЦ) Белорусского экзархата. На древний готический храм «реконструкторы» имеют намерение установить куполы-луковицы, которые фактически разрушают памятник.

Это не первый случай вандализма и варварства под видом реконструкции культовых сооружений, который демонстрирует РПЦ в Беларуси. Так, на здании доминиканского костёла, памятника эпохи Барокко XVII в. в Клецке, который сейчас передан под церковь, самовольно был поставлен купол-луковица с крестом высотой 6 метров.

Непоправимо повреждены в результате несанкционированных ремонтных работ и намеренно несоответствующих перестроек уникальные деревянные церкви в деревнях Гощево Ивацевичского, Махро Ивановского, Порплище Докшицкого районов и во многих других местах страны.

Калечатся не только былые католические или униатские храмы, а уже и сами православные переделываются на российский копыл.

Церковными властями был разрушен Малый гостиный двор XVIII столетия в Минске, (пл. Свободы, 19–21) и многие другие памятники истории и культуры Беларуси. Подобная практика стала уже нормой.

Считаем своим моральным долгом апеллировать к общественным и культурным кругам страны с целью высказать решительный протест против антикультурной, антибелорусской деятельности РПЦ.

Обращаем внимание также на то, что разрушение автохтонной культуры и белорусских исторических памятников — одно из проявлений типичной колониальной политики, которую российские власти осуществляли в течение нескольких прошлых столетий в оккупированной и присоединенной к империи Беларуси. Теперь эту политику продолжает РПЦ. Мы требуем остановить уничтожение нашего наследия!